# Самапомач Самаромаў

Беларуская Коопэратыўна-Гаспадарчая Часопісь

Год II. | Вільня, Лістапад 1933 г. | № 13.



Хай злыдні над намі,
скрыгочуць зубамі
Любі сваю ніву, свой
край,
І, колькі ёсьць сілы,
да самай магілы
Ары, барануй,
засявай!..

ЯНКА КУПАЛА.



Усе вялікія падзеі народаў і ўсе цывілізацыі былі створаныя дабравольнымі стараньнямі аб'яднаных людзей... самапамаччу

Джордж РЭССЭЛЬ.
(Ірляндзец).



## ЗЬМЕСТ № 13



## BIEŁARUSKAJA ABECEDA
Беларуская абэцэда.

| | | | |
|---|---|---|---|
| A, a — А, а. | H, h — Г, г. | Ł, ł, — Л, л. | Š, š — Ш, ш. |
| B, b — Б, б. | Ch, ch — Х, х. | M, m — М, м. | T, t — Т, т. |
| C, c — Ц, ц | I, i — I, і. | N, n — Н, н. | U, u — У у. |
| Ć, ć — ЦЬ, ць. | J, j — Й, й. | Ń, ń — НЬ, нь. | Ŭ, ŭ — Ў, ў. |
| Č, č — Ч, ч. | Ja, ja — Я, я. | O, o — О, о. | V, v — В, в. |
| D, d, — Д, д. | Je, je — Е, е. | P, p — П, п. | Y, y — Ы, ы. |
| E, e — Э, э. | Ju, ju — Ю, ю | R, r — Р, р. | Z, z — З, з. |
| F, f — Ф, ф. | K, k — К, к | S, s — С, с | Ž, ž — Ж, ж. |
| G, g — Г, г. | L, l — ЛЬ, ль. | Ś, ś — СЬ, сь. | Ź ź — ЗЬ, зь. |



UVAHA: Pry niedaručeńni vypisanaj hazety z pošty treba zaraz-ža žadać vyjaśnieńnia na tej ža pošcie. I tolki ŭ razie, kali b heta nie pamahło, treba zaraz-ža ab usioj spravie napisać u administracyju „Samapomačy". Padać pry hetym treba: kali (dakładna padać datu), čamu na jakoj pošcie i jakoha numaru časopisi nia možna było atrymać. Biaz hetycch danych zamienny numar „Samapomačy" vysyłacca **nia budzie**.

*Administracyja „Samapomačy".*

Samapomač

BIEŁARUSKAJA KOOPERATYŬNA-HASPADARČAJA ČASOPIŚ.

Adres:
VILNIA (Wilno), Połackaja vul. 4—10.

Самапомач

| Hod II. | Vilnia, Listapad 1933 h. | Nr. 13 (16). |
|---|---|---|



## З кім лучыцца?

„З кім лучыцца"? Гэтакае пытаньне ставіцца ў № 8 „Беларускае Газэты", а ў наступным нумары яе, у артыкуле „Мы не адны" знаходзіцца на яго і адказ. Адказ цікавы, бо зьяўляецца праграмаю групы згуртаванай каля „Газэты". У сувязі з пазыцыяй занятай гэтаю групаю ў справах коопэратыўных, а таксама з выпадамі „Газэты" на наш адрэс, прыгледзьмося да гэтага адказу бліжэй.

„Беларуская Газэта" піша: „У польскіх рабочых і сялянах, у працоўных іншых нацыянальнасьцяў бачым тых, з каторымі мы павінны лучыцца на кожным кроку нашага жыцьця", бо гэты шлях „Газэта" лічыць „перадумоваю" самастойнасьці свайго руху.

Ня будзем перашкаджаць „Беларускай Газэце" лучыцца з кім яна знаходзіць патрэбным для асягненьня сваіх мэтаў, але ня можам і маўчаць, калі тая-ж „Газэта", праводзячы сваю генэральную лінію, імкнецца паводле яе выраўняць і беларускі коопэратыўны рух, накіроўваючы яго ў русло агульнапольскай(!) коопэрацыі.

Шлях гэты, праўда, ужо ня новы, бо выпрабаваны быўшым Пасольскім Клюбам „Змаганьне".

З гэтым напрамкам „Бел. Газэты" мы, як орган беларускае коопэратыўнае думкі, пагадзіцца ня можам.

Шлях „Бел. Газ." аддае нашую нараджаючуюся коопэрацыю пад апеку і кантролю польскіх саюзаў, а прадусім „Społemu", якія ніколі ня вырашаць эканамічных праблемаў нашага жыцьця на нашую карысьць, бо гэткае вырашэньне знаходзіцца ў поўнай супярэчнасьці з інтарэсамі польскага асадніцтва, якое заўсёды паляком бліжэй, як інтарэсы беларускага селяніна. Ня могуць даць нам польскія коопэратыўныя саюзы выкарыстаць праз коопэрацыю і ўсіх магчымасьцяў у галіне культурна-асьветнай. А гэта зьяўляецца для нас справай вельмі актуальнай.

Калі-б мы глядзелі на коопэрацыю як на звычайныя крамкі, паклінаныя да жыцьця толькі для таго, каб гандляваць, то пытаньне аб нацыянальным характары коопэрацыі не набірала-б гэткае вострасьці. Але коопэрацыя, па самай сваей прыродзе ня ёсьць толькі звычайная крамка. Для нас гэта ўстанова грамадзка-гаспадарчага характару, якая павінна ня толькі купляць і прадаваць, але — і гэта галоўнае — арганізовываць і выховываць сваіх сяброў і наагул грамадзянства. Бяз гэтага коопэрацыя траціць увесь свой сэнс.

Асабліва важная гэта роля коопэрацыі для нас Беларусоў, нямаючых ані сваіх школ, ані сваіх вучыцялёў, нямаючых наагул усяго таго, што магло-б падтрымліваць наш культурна асьветны рух. І вось коопэрацыя і павінна запоўніць гэты прабел. Беларускае слова, вуснае ці друкаванае, лекцыя, кніжка, часопісь і наагул усё тое, што зможа паднясьці коопэратыўную сьведамасьць нашага селяніна і пашырыць яго агульны сьветагляд — усё гэта павінна даць яму беларуская коопэрацыя. А асягнуць гэта мы зможам толькі тады, калі коопэрацыя сама будзе нясіць наш беларускі — чыста нацыянальны характар. Ані польская, ані міжнацыянальная коопэрацыя не дадуць нам выкарыстаць усіх магчымасьцяў — бо гэта ня будзе адказываць іх інтарэсам. За доказамі гэтага далёка йсьці ня трэба. Калі ў 1929 годзе Віленскі Аддзел „Społem!" (хіба-ж ня чыста польскі!) захацеў координаваць сваю культурна-асьветную працу з іншымі грамадзкімі ўстановамі, дык зьвярнуўся не да нас Беларусоў, а да чыста польскіх арганізацыяў, як саюз польскіх вучыцялёў, саюзы польскай моладзі і г. д. Якая карысьць ад гэтага супрацоўніцтва была для нас — хіба-ж казаць ня трэба...

Апроч гэтага ня можа быць карысным для нас шлях групы „Беларускай газэты" і з пункту гледжаньня чыста гаспадарчага.

Беларускі народ, у сувязі з гістарычнымі абставінамі свайго жыцьця, ня здолеў стварыць нацыянальнага капіталу, які стаўся-б падвалінай яго незалежніцкіх імкненьняў. Коопэрацыя павінна запоўніць і гэты недахоп, павінна даць нам грамадзкі капітал. А гэта будзе магчыма толькі тады, калі зьбіраны капітал будзе знаходзіцца ў нашых руках, а не адплываць ад нас у цэнтралі польскіх коопэратываў, гдзе выкарыстовываецца на мэты, ад якіх нам Беларусом ня бывае ніякай карысьці. З гэтых і з шмат-шмат іншых прычын беларуская коопэрацыя не павінна ўлівацца ў русло коопэрацыі польскай, але йсьці шляхам самастойным, зарганізаваўшыся ў свой беларускі саюз, які павінен быць беларускім ня толькі формай, але і зьместам.

М. М.

# Miesiac śniežań — Miesiacam biełaruskaj kooperacyi.

*(Instrukcyi i nakazy).*

Kinienaja ŭ apošnim № 12 „Samapomačy“ dumka ab „Miesiacy biełaruskaj kooperacyi“ znašła siarod našych čytačoŭ i supracoŭnikaŭ vielmi prychilny vodklik. Z hetaje pryčyny ŭvažajem za patrebnaje, a navat kanieśnaje raźvić tut heta dumku šyrej dy pastavić konkretnyja prapazyki i nakazy.

Na kolki sama dumka ŭstanaŭleńnia dnioŭ, tydniaŭ ci miesiacaŭ kooperacyi adrazu i skroś biassporna pryniałasia i biazźmienna da siahońnia tryvaje, na hetulki ciažejšaj da stałaha pryniaćcia akazałasia parà (m-cy červień-lipień), u jakuju pačali hetki Dzień kooperacyi ładzić. Heta niavyhoda vynikła asabliva paśla taho, kali kooperacyja pačała pranikać na viosku, dzie viasnoj jakraz nadychodzie haračy rabočy čas i dzie ŭ hetu paru ab arhanizacyjnaj pracy niama što i havaryć. Dziela hetaha kooperatyŭnyja dziejačy ŭ krajoch ziemlarobskich (Ukraina, Baŭharyja i inš.) pieranieśli ŭ siabie kooperatyŭnyja Dni na paru vosieńskuju, kali ŭ ziemlarobskaj vioscy značna bolš volnaha času. Naša biełaruskaja vioska naskroś ziemlarobskaja i dziela taho i ŭ nas vosień pavinna być paroj dla arhanizavańnia Dnioŭ Kooperacyi.

Ab značeńni hetych Dnioŭ nia budziem tut šmat pisać, bo pisałasia ab hetym u №5-6 „Samapomačy“. Zaznačym tolki, što ŭ našych zach.-biełaruskich varunkach inakš treba adznačać Dni kooperacyi tam, hdzie ŭžo tyja ci inšyja kooperatyŭnyja placoŭki jość i jnakš tam, dzie hetkich placovak jašče niama.

Tam dzie jakaja-niebudź kooperatyŭnaja placoŭka ŭžo jość, tam kooperatyŭnyja Dni treba vykarystać na toje, kab žyćcio ŭ ich ažyvić, zhuścić, uzmocnić: u kooperatyvach spažyvieckich i kredytovych paviaści družnuju rabotu nad syskańniem zadaŭnienych daŭhoŭ; u kožnaj kooperatyvie — a znača i ŭ vytvorčaj — nad uzmacnieńniem kooperatyŭnaj dyscypliny, nad pabolšańniem liku siabroŭ i nad sposabami pašyreńnia kooperatyŭnaj dziejnaści na inšyja haliny žyćcia. Npr. dzie jość tolki kooperatyva spažyvieckaja, tam treba padumać ab zasnavańni kooperatyvy vytvorčaj (napr. małačarni), kredytovaj ci naadvarot. Usie takija hutarki i pastanovy, zahadzia abdumanyja i abrachavanyja, najlepš pravodzić na sumysnym nadzvyčajnym schodzie siabroŭ isnujučaj kooperatyvy.

Tam uznoŭ, dzie nijakaj kooperatyŭnaj placoŭki jšče niama, tam Dni kooperacyi treba vykarystać na toje, kab dla kooperacyi pryhatavać hrunt, a pa mahčymaści zasnavać i samuju kooperatyvu. Praviadzieńnie takoj pracy treba spadziavacca i damahacca ad miascovaj intelihiencyi. Mudraści tut nijakaj niama, a z vypisanaj knižkaj i hazetaj takuju rabotu patrapić pravieści pieršy lepšy viaskovy hramaciej. Treba tolki achvoty. U biełaruskaj movie, praŭda, takich prapahacyjnych knižak jašče niašmat, ale nieabchodnyja ŭžo jość. Vypisać ich možna z redakcyi „Samapomačy“. A dla najahulniejšaha zoryjentavańnia ŭ kooperatyŭnych spravach moža słužyć choć-by nižej źmieščanaja ŭ siańniašnim nu-

---

# Будуйма сваю коопэрацыю!

*(Думкі на Дзень Коопэрацыі).*

Аб штодзенных нястачах, аб бядзе і аб усім, што прынёс з сабой сучасны крызыс сапраўды надакучыла ўжо ня толькі гаварыць, але і думаць. Здавалася-б — што тут больш і выдумаеш? І аднак-жа думаць ёсьць аб чым, хоць-бы дзеля таго, што само нічога нікому ня робіцца, прынамся нічога добрага. Дык затрымайма праз хвіліну толькі сваю ўвагу над тым: што кругом нас дзеецца ды што і пры якіх варунках дзеецца можа?

## *Што кругом нас дзеецца?*

Досыць спаткацца з жыцьцём, каб пачуць нараканьні на ўсіх і на ўсё. Здаецца пры гэтым чалавеку ня раз, што „ўся бяда ў нястачы грашэй. І калі-б іх было болей, тады... тады кожны патрапіў-бы імі гаспадарыць і бяз нічыей рады і помачы“. Няма сумніву, што грошы ў кожнай гаспадарцы — важная рэч. Але праўда і тое, што грошы яшчэ далёка ня ўсё, а перадусім яны ня мэта, а толькі сродак, прытым — сродак вельмі капрысны і небясьпечны. Параўнаць іх можна было-б да пэўнай меры з вострым нажом, які ў руках мастака выробляе цуды мастацтва, але ў руках дзіцяці або чалавека шалёнага можа стацца сродкам зьнішчэньня і сьмерці. І ўсё тойсамы нож.

Тое самае і з грашмі. І яны неадпаведна ўжытыя (лёгкамысныя крэдыты) даводзяць чалавека да руіны. Але грош ужыты разумна пры сучаснай грашовай (капіталістычнай) гаспадарцы ёсьць варункам, ёсьць ключом да гаспадарчага дабрабыту.

Скуль аднак сягоньня гэты грош дастаць? Адказваем проста: вылучыць пасярэдніка паміж тым, хто якое-небудзь дабро выробляе і тым, хто яго набывае, а кошты гэтага дарагога пасярэдніцтва затрымаць і абярнуць на агульна-карысную справу. З гэтага паўстануць вагромныя сумы.—Каб гэта лепш зразумець, разгледзім справу ад асноваў.

Круг штодзенных інтарэсаў звычайнага

mary „Samapomačy“ staćcia „Будуйма сваю коопэрацыю!“

Praktyčna praviadzieńnie spravy vyhladała-b bolš-mienš hetak:

Asoba choć krychu z kooperacyjaj abaznanaja padšukaje sabie adnaho-druhoha čałavieka, katoramu dašć pračytać viedamuju sabie knižku-časopiś i paśla ab pračytanym supolna pahavorać, abmiarkujuć. Kali buduć uvažać, što sprava vartaja, kab z joj paznajomić bolš susiedziaŭ, tady sklikajuć ich u adnu chatu, kab raskazać ab pračytanym: što adzin zabyŭsia, druhi papraŭlaje i dapaŭniaje. Dobra nadta ŭpłyvaje na ŭśviedamleńnie supolnaje adviedańnie susiedniaj užo isnujučaj kooperatyvy. Zasnovyvać kooperatyvu možna tady tolki, jak heta staniecca žadańniem samych žycharaŭ; nakidvać arhanizacyju źvierchu nikoli nia možna. U sumniŭnych vypadkach najlepš zaŭsiody źviarnucca za radaj u redakcyju „Samapomačy“.

Urešcie ŭ kožnym miescy i kožnym vypadku treba viedać, što biełaruskaj kooperacyi biez biełaruskaj kooperatyŭnaj presy budavać nijakim čynam nia možna. Kooperatyŭnaja presa łomić pieršyja lady niaśviedamaści i kooperatyŭnaja presa najlepš pamahaje ŭtrymać kooperatyŭnyja placoŭki ŭžo zbudavanyja. Dziela hetaha ŭsiudy i zaŭsiody patrebna mieć pad rukoj svaju biełaruskuju kooperatyŭnuju presu. U Zach. Biełarusi kooperatyŭnaj spravie słužyć časopiś „Samapomač“ i jaje treba skroś pašyrać. Heta jošć kaniešnaść.

Dyk chto žyŭ — na biełaruski kooperatyŭny front!

Śpisak biełaruskaj kooperatyŭnaj literatury na Dzień kooperacyi znachodzicca na inšym miescy siańniašniaj „Samapomačy“. *K.*

# Źmiena kooperatyŭnaha zakonu adłožana?

Čytačy našy viedajuć užo, jakija kalainy prachodziŭ polski kooperatyŭny zakon z 1920 h. Apošnim časam polskaja kooperatyŭnaja presa ŭznoŭ prynosić viestku, što byccam polski ŭrad pakinuŭ užo dumku pravodzić źmienu hetaha zakonu šlacham prezydenskaha rasparadžeńnia i maje byccam padać hetu spravu pad narady Sojmu. Što ŭpłyło na Ŭrad, što adkazaŭsia ad svajej pačatkavaj dumki, — ab hetym publična nia viedama. Možna tolki dahadvacca, što nie apošniuju tut rol adyhraŭ źjezd pradstaŭnikoŭ polskaj kooperacyi 8.X s.h. ŭ Varšavie. — Varta ŭvahi zajava pradstaŭnika ŭradu na hetym źjeździe min. L. Kazłoŭskaha, što Ŭrad maje straty na polskich h. zv. „rolniczo-handlovych“ kooperatyvach kruhła 10 miljonaŭ złotych. Strašnaja heta musiła być haspadarka čužym hrošam!

Jaki abarot pryjmie sprava źmieny kooperatyŭnaha zakonu ŭ budučyni — pradbačyć ciažka. Sami polskija kooperatary, na kolki heta možna zrazumieć z ichnaj presy, raźviazku spravy bačać u „dalšaj inicyjatyvie i pracy — sobskaj — ŭ kirunku pieramahańnia niedachopaŭ u dziejnaści kooperatyvaŭ, a taksama ichnych sajuzaŭ (organizacyj nadrzędnych). Tady ŭsiakija pomysły ŭmiešyvańnia (uradu) straciać žyćciovyja asnovy“. „Dzikija“ kooperatyvy, nie naležačyja da nijakaha sajuzu, ciapier taksama majuć być uziaty ŭ kryžovy ahoń: samych sajuzaŭ i ŭradavaj Kooperatyŭnaj Rady.

Z punktu hledžańnia intaresaŭ našych

---

чалавека замыкаецца стараньнямі перадусім каб заспакоіць голад (наесьціся), каб абуцца, апрануцца, каб мець нейкі кут прыхінуцца і г. д. Першабытны чалавек усё гэта прыгатаўляў сабе сам. Сягоньня гэта работа падзелена. Земляроб дастаўляе сырэц для ўсякіх страваў (для ежы), шавец — абувае, кравец — апранае і г. д. Пры гэтым падзеле працы кожны вытворца затрымоўвае для сябе тольکі нязначную частку таго, што сам вырабіў— рэшту выпускае на рынак, скуль узноў дастае сабе ўсё тое, чаго патрабуе і што сам не вырабляе.

Для дальшага разуменьня ходу справы ўмовімся называць таго, хто вырабляе нейкі тавар — вытворцам, а таго, хто гэты тавар патрабуе — спажыўцом.

Вось-жа, пакуль вытворчасьць была так раздробленай, як раздробленым да сягоньня йшчэ ёсьць спажыцьцё, пакуль вытворца (рамесьнік, земляроб) спатыкаўся на рынку беспасярэдна з спажыўцом, пакуль беспасярэдна яму прадаваў боты, адзежу і ад яго купляў хлеб, малако і наадварот, датуль абодва яны — і вытворца і спажывец — даставалі на рынку цэлую вартасьць свае працы: шавец даставаў за прадаваныя боты гэтулькі, колькі за іх плаціў той, хто гэтыя боты для сябе купляў, а земляроб узноў даставаў за хлеб, малако і г. д. гэтулькі, колькі за іх плаціў той, хто земляробствам не займаўся.

Але вось зьявілася машына і пачала выкідаць на рынак такое мноства тавару, якога той ня мог зараз-жа беспасярэдна перапрадаць спажыўцу. Зьявілася патрэба перавазіць гэты тавар з месца на месца, ня раз вельмі далёка, магазынаваць у асобных складах, берагчы ад сапсуцьця, ад пакражы і г.д. і г. д. Да ўсяго гэтага патрэбнымі сталіся людзі, якія самі ані вырабляли, ані спажывалі і каторыя аднак апынуўшыся між вытворцам і спажыўцом дыктавалі цэны і аднаму і другому на іхную ж шкоду і на сваю карысьць: вытворца не даставаў ужо за сваю працу гэтулькі, колькі плаціў спажывец. Гэта розьніца аставалася ў кішані пасярэдніка — гандляра: ён стаўся на рынку панам, ён пла-

# Jak zasnavać kooperatyvu?

Častyja ŭ apošnim časie zapytańni ab sposabach zakładańnia novych kooperatyvaŭ pieravažna abiartajucca kala sposabu pryhatavańnia statutu da rejestracyi. Kab nie paŭtaracca ŭ paasobnych pryvatnych piśmach, razhledzim tut heta pytańnie adkryta i ad pačatku:

Kali chto choča adčynić u siabie kooperatyvu i nia viedaje jak za spravu ŭziacca, chaj napiša ŭ redakcyju „Samapomačy", pasyłajučy adnačasna na prošanyja druki 1 zł. na konto P.K.O. inž. Klimoviča № 180.485. Atrymanyja brašury treba ŭvažna pračytać. Kali znajdziecca dosyć achvotnikaŭ da spravy, tady sklikać treba ahulny arhanizacyjny Schod. Najpaźniej za try dni prad schodam, praz najbližejšy Pastarunak Palicyi padajecca zajava Pavietavamu Staraście, u jakoj treba zaznačyć: dzień, hadzinu i miejsca schodu i paviestku naradaŭ. Na paviestcy pavinny być punkty vyznačanyja na bačynach 4 i 5-aj u brašury M. Mancevića „Як залажыць спажывецкі коопэратыў" (heta brašura ŭžo budzie ŭ rukach zakładčykaŭ). Zaznačyć taksama ŭ zajavie (padani) nia škodzić, što narady buduć viaścisia ŭ biełaruskaj movie, bo byvali vypadki, kali palicyja zabaraniała na schodach havaryć pabiełarusku (Lachavičy!).

Da paasobnych punktaŭ rassyłanych nami brašur i samoha statutu treba zaznačyć nastupnaje:

1. U art. 1-šym ramovaha statutu, jaki taksama vysyłajecca kožnamu, chto hetaha pažadaje, treba ŭpisać nazoŭ zasnoŭvanaj kooperatyvy abaviazkava ŭ movie biełaruskaj, choć i polskim pravapisam, napr. *„Spażywiecki kooperatyŭ „Buduczynia" z adkaznaściu pajami ŭ Zareczczy"*.

2. U art. 5 treba ŭpisać usie vakoličnyja vioski i zaścienki, skul mohuć być siabry kooperatyvy, a za słovam *„a siedzibą"* — upisać nazoŭ tej vioski ci miastečka, u katoraj maje być sama kooperatyva.

Upisovyja składajucca zvyčajna 1 abo

---

biełaruskich kooperatyvaŭ i samoj spraviadlivaści treba zaznačyć, što na kolki imknieńnie polskich kooperataraŭ „u kirunku pieramahańnia niedachopaŭ u dziejnaści kooperatyvaŭ, a taksama ichnych sajuzaŭ" i zvostrany kurs proci kooperatyvaŭ „dzikich" — na polskich ziemlach susim apraŭdany, na hetulki srohaje zastasavańnie hetaj miery da kooperacyi na ziemlach biełaruskich nasuvaje pavažnyja zaściarohi datul, pakul tut nia majem dla jaje pryrodnaha, h. zn. biełaruskaha Centru — Biełaruskaha Sajuzu Kooperatyvaŭ. Sarhanizavańnie hetkaha Sajuzu — heta nakaz najbližejšaj chviliny dla kooperataraŭ biełaruskich, tymbolš što ŭsie narody ŭ sučasnaj Polščy svaje Sajuzy majuć — navat Rasiejcy. Ad kooperataraŭ-ża polskich majem prava spadziavacca i navat damahacca, kab u imia sapraŭdnaj kooperacyi nam Biełarusom hetaj raboty siańnia prynamsia nia ŭtrudniali. Abaviazak hety lažyć na sumleńni polskich kooperataraŭ ad taho času asabliva, kali jany ŭ 1922-24 h. h. ŭziali na veksal našu kooperacyju i tady ŭžo isnujučy Vilenski, faktyčna biełaruski Sajuz Kooperatyvaŭ. Srok vykupleńnia veksalu ŭžo nadyšoŭ!..

— *ič.*

---

ціць вытворцу колькі хоча і ён бярэ ад спажыўца таксама колькі хоча.

Але скажа мо' хтось, што нехта-ж мусіць пасярэднічаць, само ня зробіцца... Слушна! Толькі бяда ў тым, што гэтых пасярэднікаў намножылася найменш у чатыры разы гэтулькі, колькі іх патрэбна. А пасьля... гэтыя-ж пасярэднікі, конкуруючы між сабой, адбіваюцца спосабамі не заўсёды чэснымі: тут ідзе ў ход крыклівая рэкляма, якая ўпіхае спажыўцу тое, чаго яму сусім ня трэба, тут ёсьць фальшаваньне самых тавараў, недабор на вазе і г. д. І ўсё гэта канец-канцоў аплачвае спажывец і вытворца: першы ў форме надплатаў, а другі ў форме збываньня сваіх тавараў пад цану сабевартасьці.

### *Што быць можа?*

Які-ж тады з гэтага выхад? Як быць, каб спажывец плаціў толькі кошт самога тавару, а вытворца каб атрымоўваў слушную аплату за працу ўложаную ў выраблены сабой тавар?

Пэўная рэч, што ня можна вяртацца да таго стану, каб узноў кожны шавец з парай ботаў і кожная сялянка з квартай малака цягнуліся на рынак і там марнавалі час, покуль знойдуць купца на свой тавар. Гэта быў-бы вялікі крок узад, а нашым заданьнем усьцяжісьці наперад! Як тады быць?

Гэта пытаньне вырашана ўжо блізу сто гадоў таму назад у форме коопэратываў, у даным выпадку **коопэратываў для агульнага закупу і збыту.** Коопэрацыя прызнае, што пры сучаснай форме вытворчасьці абмінуць пасярэдніцтва ня можна. Але можна і трэба гэта пасярэдніцтва зрабіць уласнасьцю агулу, а не асобаў прыватных. Тады ўсе надплаты спажыўцоў і недаплаты для вытворцаў па ўмоўленым часе вернуцца ім назад. Пры прыватніцкім пасярэдніцтве ўсё гэта беспаваротна астаецца ў кішані прыватнага гандляра.

### *Пры якіх варунках можа стацца вылучэньне прыватнага пасярэдніка?*

Перадусім, у чым істота пасярэдніцтва? Пасярэдніцтва ў свой інтэрас укладае працу

2 zł. a paj — 10 zł.; pobač z cyframi suma ŭpisovych i paju zapisvajecca i słovami.

U art. 36 — treba ŭpisać „*Samapomacz*", *Wilno, Połocka 4—10.*

Na apošniaj bač. statutu treba kab vyrazna padpisalisia imiam i proźviščam, nie kaniešna papolsku, siabry-zakładčyki ŭ liku nia mienš 10-ch. Pobač podpisu treba dapisać viosku, skul padpisany pachodzić i hminu, abo ŭ mieście — vulicu i № domu.

Usio ŭnutranaje dziełavodztva biełaruskija kooperatyvy pavinny viaści pabiełarusku, choć tymčasam najčaściej u polskich kancelaryjnych knihach. Pierapiska biełaruskich kooperatyvaŭ z administracyjnymi ŭładami (palicyja, starastva) na abšary Vilenščyny, Navahradčyny, Paleśsia i pavietaŭ Horadzienskaha, Vaŭkavyskaha i čaści Bielskaha, zhodna z zakonam z d. 31.VII.24 h., moža — a z biełaruskaha punktu hledžańnia i pavinna — adbyvacca pabiełarusku. U Sud adnak treba siańnia ŭ nas usie papiery pisać papolsku, navat kopii z pratakołaŭ Ahulnaha Schodu i pasiedžańniaŭ Nahladnaj Rady kooperatyvy.

Kab adznačyć adnak śviadomuju volu biełaruskaj kooperatyvy šanavać svaju biełaruskuju movu, pry kancy papolsku pisanaha pratakołu, praznačanaha ŭ sud, robicca nastupnaja dapiska: „*Protokół niniejszy sporządzony jest w języku polskim na skutek ograniczeń praw języka białoruskiego przy procedurze rejestracyjnej*".

Ahułam uziata adnak u biełaruskich kooperatyvach treba bolš šanavać biełaruskuju movu: heta naša prava i naš narodny abaviazak!

*M. K-r.*

# Pačujcie zrazumiejcie i adkliknieciesia!

(*Adkrytaje piśmo da biełaruskich absolventaŭ i absolventak kooperatyŭnych i haspadarčych škoł*).

Siabroŭki i Siabry! U pierałamovuju chvilinu biełaruskaha narodna-haspadarčaha i našaha asabistaha žyćcia zabiraju publična hołas, kab padzialicca z Vami dumkami ab našaj sučasnaści dy ab našych žadańniach i abaviazkach na budučyniu.

Usich nas vučyli ŭ škole sioje-toje rabić, ale pradusim nam kazali, što

**ŭ łučnaści siła,**

dy što

**niama ščaścia asabistaha biaz ščaścia ahulnaha.**

Kali kožny z nas vyšaŭšy z škoły budzie žyć i pracavać tolki ŭ svaim kutku, dyk ničoha nie dasiahniem ni asabista, ni tymbolš ničoha nia zdolejem zrabić dla dabra ahułu, dla našaj baćkaŭščyny — Biełarusi. A heta-ž jość najpieršym abaviazkam kožnaha našaha kulturnaha čałavieka i hramadzianstva.

Voś-ža z hetaj pryčyny my musim miž saboj łučycca, kab mahčy adzin-druhomu pierakazvać, što, dzie i jak robicca i kab u sumniŭnych vypadkach mieć dla siabie fachovuju paradu i pomač tak, jak my jaje mieli ŭ škole. Zvyčajnymi piśmami ad čałavieka da čałavieka šmat zrabić nia možna: raz što da ŭsich napisać i ad usich pračytać piśmy jość fizyčnaj niemahčymaściu, a druhoje — nia mienš važnaje — hetkaje pisańnie piśmaŭ vymahaje vielmi vialikich koštaŭ.

Na ščaście jość sposab uzajemnaha para-

---

і капітал. І працу і прыватны капітал уложаныя ў пасярэдніцтва аплачвае ў канцы канцоў спажывец з вытворцам. Што пры прыватніцкім пасярэдніцтве аплачваецца праца— у гэтым бяда малая, бо кожны за сваю працу павінен атрымоўваць належную аплату. Замяніць працу прыватніцкую на працу грамадзкую — пры сягоньняшнім безрабоцьці— рэч ня трудная. Цяжэй незраўнана замяніць прыватніцкі капітал — капіталам грамадзкім. І тут бяда, бо ўся прычына дарагоўлі прыватніцкага пасярэдніцтва ня ў тым, што аплачваецца прыватніцкая праца, а ў тым, што тут аплачваецца дарагі працэнт ад уложанага прыватніцкага капіталу.

Дзеля гэтага найважнейшай — пасьля ўмелага кіраўніцтва — справай пры разбудове грамадзка-коопэратыўнага пасярэдніцтва ў вытворстве і спажыцьці ёсьць зьбіраньне **грамадзкага капіталу.** Складаецца ён з паёў і гадавых адлічак ад гаспадаркі коопэратывы. Тады толькі, калі і вытворцы і спажыўцы ўздабудуцца на свой собскі капітал, тады ён перастане іх вызысківаць і пачне ім служыць.

*Закладаймо свае коопэратывы!*

Ясным пасьля гэтага становіцца, што дарагоўлю для спажыўца і непаплатнасьць для вытворцы выклікае дарагое прыватніцкае пасярэдніцтва. Трэба яго замяніць. Ня зробіць гэтага ніякі наказ, ні нават цуд. Замяніць яго можа толькі той, хто сам у чыннасьць пасярэдніцкую патрапіць улажыць сваю працу і свой капітал. Тое грамадзянства, што і працу і капітал патрапіла сарганізаваць у формы коопэратыўныя, для працы здабыло паплатнасьць, а з ярма чужога капіталу зрабіла свайго служку.

Дык закладаймо коопэратывы і мы, Беларусы, бо і наша праца ідзе за бясцэн і нас гняце чужы капітал!

С. Б—кі.

---

Беларуская літэратура на Дзень Коопэрацыі:

1. А. Klimoviča — Leki na ździeki.
1. М. Манцевіча — Як залажыць спажывецкі коопэратыў.
3. Васіленя — Спажыв. коопэратыў і праца ў ём.
4. Я. Косаўскі — Для бліжніх.

zumieńnia i tanny i chutki. Chopić napr. adnojčy ŭ miesiac napisać u adno ŭmoŭlenaje miesca, skul uznoŭ usie dumki, majučyja ahulna-hramadzkuju vartaść, raschadzilisia-b nia tolki da našych siabrovak i siabroŭ, ale i pa cełym kulturnym śviecie. Hetkim zahadzia ŭmoŭlenym miescam, kali-b na heta zhadziłasia, mahła-b i musiła-b być redakcyja biełaruskaj kooperatyŭna-haspadarčaj časopisi „Samapomač".

Dyk zaklikaju ŭsich śviedamych biełaruskich absolventaŭ i absolventak, a navat vučniaŭ i vučanic kooperatyŭna-haspadarčych škoł padać u redakcyju „Samapomačy" (Vilnia, Połackaja 4—10) karotkija, ale vyraznyja viestki ab tym, chto skul pachodzić, hdzie vučyŭsia (abo jšče vučycca), što i hdzie robić pa skančeńni škoły, abo što rabić chacieŭ-by. Hetki pierahlad svaich sił pakaža nam, što my zdolny zrabić i ŭ niedalokaj mo' ŭžo budučyni dašć nam mahčymašć sarhanizavacca ŭ svoj asobny fachovy sajuz. A tymčasam kožny z nas chaj sumlenna stanie da raboty pavodle namiečanaha redakcyjaj „Samapomačy" planu. Kožny z nas:

1. chaj prymie dziejnaje ŭčaście ŭ Miesiacy biełaruskaj kooperacyi;
2. chaj padšukivaje ludziej na biełaruskija zavočnyja kooperatyŭnyja kursy pry red. „Samapomačy" i
3. chaj pašyraje siarod biełaruskaha sialanstva achvotu da čytańnia svaje biełaruskije haspadarčaje knižki i časopisi.

Tyja z nas urešcie, kaho los zahnaŭ daloka ad baćkaŭščyny, abo chto naahuł čynna na biełaruskaj kooperatyŭna-haspadarčaj nivie pracavać čamušci nia moža, toj chaj uvažaje za svoj hramadzki abaviazak pamahčy našamu biełaruskamu kooperatyŭna-haspadarčamu vydaviectvu pry redakcyi „Samapomačy" hrašmi; bo siahońnia na biełaruskuju kooperatyŭnuju literaturu na našaj vioscy vialiki hoład, a vydać jaje niama za što.

Dyk usie da pracy!

**(—) Paval Hapanionak.**
Absolvent Kooperatyŭna-Haspadarčaj Škoły ŭ Nałęčovie.

Vilnia 4.XI.1933.

**Ad Redakcyi:** Achvotna jdziom na sustreč nadziejnym pačynańniam maładoha biełaruskaha pakaleńnia, razumiejučaha patrebu arhaničnaj u nas haspadarčaj pracy, biaz uvahi na roznyja złosnyja našeptyvańni z-boku ludziej abo niaśviedamych spravy, abo vyrazna błahoj voli. Heta śmiełaje vystupleńnie ščyra vitajem!

## Kooperatyŭnyja naviny.

**Razrost biełaruskaj kooperatyŭnaj akcyi** apošnim časam dajecca vielmi zaŭvažyć u Navahradčynie. Na pieršaje miesca vysoŭvajecca Staŭpieččyna, dzie vialikuju pracu ŭ heta ŭłažyŭ inž. Mikałaj H a r o š k a. Jahonaj enerhii i śviedamašci samych žycharoŭ treba prypisać sarhanizavańnie ŭ apošnim m-cy kooperatyvaŭ: „Zorka" — u Kožavie, „Poŭnia" — u Branosavie, k-vy ŭ Vialikaj Słabadzie i inš.

Varta ŭvahi stojkašć samych siabraŭ kooperatyvy, z jakoj jany damahajucca, kab Sud prypisyvaŭ ichnyja kooperatyvy tolki da „Samapomačy", a nie da polskich časopisiaŭ, jak „Rolnik Novodródzki"...

Usie novyja biełaruskija kooperatyvy pavinny pamiatać, što ichnym abaviazkam taksama jošć pisać ŭ Statut i pratakoł tolki svaju biełaruskuju „Samapomač".

# *Сельская гаспадарка.*

**Ад рэдакцыі:** З прычыны навалу срочнага коопэратыўнага матэрыялу, аддзел „Сельска-гаспадарчы" сягоньняшняга нумару „Самапомачы" прышлося скараціць да найменшай меры.

## Аб гадоўлі сьвіней.

Гадоўля сьвіней, побач з гадоўляй быдла, ёсьць галоўнай крыніцай грашовага даходу гаспадара-земляроба. Але і гэта дзялянка нашай працы занядбана. Тымчасам што раз лепш плацяць на рынку за сьвінячы тавар, калі толькі гэты тавар сапраўды добра выгадаваны; тады ня цяжка знайсьці для яго і збыт.

Сьвіні гадуюцца на сала і мяса (ятковы тавар), або на сланіну (цяжкі тавар), або на бэконы; некаторыя гаспадары гадуюць тавар гадаўляны, г. зн. парасяты на продаж. Трэба згары ўстанавіць плян, які тавар нам патрэбны, бо ад гэтага залежыць падбор расы і спосаб дальшага гадаваньня і дагляду. Нашы сяляне не адрозьніваюць гэтых розных спосабаў і таму маюць тавар часта неадпаведны, малавартасны, непаплатны.

Важным пры гадоўлі сьвіней ёсьць раса. Сьвіні краёвыя, нерасовыя паволі растуць, позна дасьпяваюць, маюць малую бойную вагу (шмат адпадкаў малой вартасьці). Гэткія сьвіні не вымагаюць вялікага дагляду, ні працы, але ня могуць даць і вялікага даходу свайму гаспадару; яны надаюцца на цяжкае выкармліваньне на сланіну, але кошт гэткага выкармліваньня вельмі вялікі, а чысты зыск, натуральна, малы. Далёка лепш аплачваецца гадоўля сьвіней поўрасовых, гэта знача краёвых, палепшаных расовымі кнурамі. Каб іх выгадаваць трэба ўжываць да расплоду якнайлепшыя краёвыя мацёры і пакры

ваць іх расовымі кнурамі — напр. вялікай англіцкай белай расы. Гэткія поўрасовыя сьвіні хутка растуць і дасьпяваюць, даюць добрае мяса і вялікую бойную вагу ды вельмі добра надаюцца на прыгатаваньне бэконаў; пры гэтым маюць добрыя прыметы краёвых сьвіней, як здароўе і вялікая плоднасьць. Урэшце — расовыя сьвіні маюць для нас значэньне як матэрыял для прадукцыі сьвіней поўрасовых. Гадаваньне іх у чыстай крыві — гэта рэч каштоўная і нялёгкая, а выплачваецца галоўным чынам тады, калі гадуецца як гадаўляны тавар... Да гэткіх пародаў належаць сьвіні белай англіцкай расы вялікія, сярэднія і малыя, чорнай расы вялікія і сярэднія, нямецкая раса вэстфальская і інш.

Ясьнаўная праца пры гадаваньні сьвіней падобная як і пры гадаваньні жывёлін іншых. Першая рэч гэта падбор адпаведных расплоднікаў. Мацёра да расплоду павінна быць здаровай і добра збудаванай: малая галава, лёгкая шыя, ценькія вушы, у задзе і ў крыжы шырокая, бруха (жывот) глыбокае, шырокае і абымістае, але не абвіслае, а на ім найменш 12 сісёк. Далей, мацёра павінна паходзіць з малочнага роду і быць лагоднай. — Таксама і кнур павінен быць здаровы, добра збудаваны і так-жа лагодны. Выгляд павінен мець мужскі, сільна разьвіты перад, а таксама і зад і сільныя, простыя ногі. Ён павінен паходзіць так-жа з малочнага роду, што пазнаецца з колькасьці і розьвітку малочных барадавак на брусе. Натуральна, што расплоднікі ня могуць быць з сабой пасваячаны, але павінны быць дапасаваны да сябе што да вялічыні. Што да веку, дык ня можна ані мацёр, ані кнуроў дапускаць раней, як пасьля аднаго году жыцьця.

Сьвіня паросіцца двойчы на год. Але гэта яе вельмі выбівае з сіл і таму найлепш пакрываць яе раз у год з такім разьлічэньнем, каб парасяты былі на вясну, бо вясьняныя парасяты найлепшыя. Цяжарнасьць у сьвіні трывае 16 тыдняў*) і ў гэты час трэба старанна яе даглядаць і карміць, але не перакормліваць аж на жыр. Корміцца тры разы на дзень... На тры-чатыры тыдні перад пародам даецца корму крыху менш, але сытнейшага і лёгка страўнага, найлепш—зялёную пашу, або добрую мякіну з пшанічнымі вотрубамі, ячменную абсыпку і вараную бульбу.

Родзіць сьвіня звычайна лёгка, але трэба гэтага мамэнту ўсё-ж прыпільнаваць. Парасяты, якія прыходзяць на сьвет што 5—10 мінут, трэба выцерці да суха мяккай шматкай і класьці ў кошык, высьцеляны мяккім сенам. Толькі калі кончацца ўжо рады і адыйдзе лагво („месца"), тады прысаджваюцца парасяты да ссаньня — найслабейшыя больш да пераду, бо грудзяныя гручолы маюць найбольш малака.

Дальшай задачай гаспадара будзе выхаваць парасяты ў якнайлепшых варунках жыцьця ды ўмела і адпаведна іх даглядаць і карміць, залежна ад таго, што з іх хочам атрымаць.

інж. Р. Я. „*С. Г.*"

*) Знача, пакрываць яе найлепш ў канцы лістапада ці ў пачатку сьнежня — рэд.

## Наша пошта.

Кооп. „Рольнік" у Засулі — камплект „Самапомачы" высланы, апішэце, як у Вас ідзе праца.

Юл. Зарэцкі ў Ч. — пробны нумар высланы, прысылайце падпіску.

В. К. і М. С. — на Кооп. Курс Вы запісаны, толькі-ж прысылайце аплату. Рэшта — ў пісьме прыватным — атрымалі?

Кооп. „Засеўкі" ў Трошчыцах — 10 экз. „Самапомачы" будзем пасылаць пачынаючы ад гэтага (13) нумару.

інж. М. Г. — Просьба споўнена, рэшта ў пісьме — атрымалі

Кооп. „Поўня" ў Браносове — „Самапомач" будзе Вам пасылацца; толькі аднаго нумару замала.

У. Гацкі ў Д. — дужа добра, што Вы цікавіцеся коопэрацыяй. Гэта сягоньня бадай найпільнейшая ў нас справа.

Я. Говар — пісьмо Ваша нашлося. Адрэсы пробныя выкарыстаем з гэтым нумарам „Самапомачы". Матэрыялы ў гаспадарчы аддзел скарыстаць сёлета ўжо ня можам, бо раз што за позна, а галоў-

## Рэзалюцыя

„Мы сябры Нагляднае Рады і Управы коопэратывы „Зорка" у в. Кожаве, сабраўшыся 30.X.33 г. складаем шчырую падзяку гр.-ну інж. Мікалаю Гарошцы за яго безінтэрэсоўную дапамогу ў сарганізаваньні і залажэньні нашай коопэратывы і жадаем Яму і надалей карыснай працы дзеля эканамічнага вызваленьня нашага Народу.

Дык няхай жыве інж. Мік. Гарошка і ўсе тыя людзі, якія здабыўшы вышэйшую асьвету, ня гоняцца за казённымі пасадамі, а працуюць ахвярна дзеля дабра нашага Народу!"

Подпісы: старшыні, сэкрэтара і сямёх сяброў Нагляднае Рады і трох сяброў Управы.

нае — надта-ж у гэтым нумары цесна з месцам. Захаваем гэты матэрыял на будучы год. Пішэце штось з гаспадаркі на зімовыя месяцы. З прысланай працы відаць, што Вы пісаць можаце. Атрымалі пісьмо? Усім прывітаньні!

М. Смалонская — за пісьмо і паданыя думкі дзякуем. Можа-б Вы самі напісалі штось з жаночага жыцьця.

Сакол Захар у Ракаве — Друкі высланы. Не хапаючыя нумары „Самапомачы" можам выслаць толькі па атрыманьні грашэй за мін. год.

Я. В. Яношка ў Яльпені. — Друкі і пісьмо высланы — атрымалі? Што з Вашай коопэратывай.

А. Ул. Савіцкі ў Андронах — што чуваць з Вашай коопэратывай.

Усім, хто прасіў быць запісаным на Завочны Коопэратыўны Курс — Лекцыі ня могуць быць нікому высланы датуль, пакуль курсант не аплаціць месячнай аплаты. У собскім інтарэсе мусіць кожны з аплатай пасьпяшыцца.

# Завочны Коопэратыўны Курс пры рэд. „Самапомачы".

Разьвіцьцё беларускай коопэрацыі залежа ад фаховага прыгатаваньня ейных кіраўнікоў і працаўнікоў.

Гэта маючы на ўвазе, рэдакцыя „Самапомачы" арганізуе 5-цімесячны Завочны Коопэратыўны Курс (З.К.К.), задачай якога ёсьць даць кажнаму, хто ўмее чытаць, пісаць і рахаваць, магчымасьць у найкарацейшым часе абзнаёміцца з фаховымі коопэратыўнымі прадметамі на гэтулькі, каб магчы пасьля самому заснаваць і вясьці коопэратыўную пляцоўку.

Праграма З. К. Курсу прадугледжвае перадусім вясковыя спажывецкія коопэратывы і абымае наступныя прадметы:

| | | |
|---|---|---|
| 1. | **Навука аб коопэрацыі** (гісторыя і тэорыя) . . . . . . . | 10 лекцыяў. |
| 2. | **Коопэратыўнае права** . . . . . . . . . . . . . . . . . | 4 „ |
| 3. | **Арганізацыя і тэхніка прадажы** . . . . . . . . . . . | 6 „ |
| 4. | **Таваразнаўства** . . . . . . . . . . . . . . . . . . . | 8 „ |
| 5. | **Коопэратыўнае кнігаводзтва** . . . . . . . . . . . . . | 12 „ |
| 6. | **Беларуская мова** . . . . . . . . . . . . . . . . . . | 20 „ |
| | Разам . . . | 60 лекцыяў. |

Плян навучаньня: кожны запісаны курсант дастае поштай на тыдзень 3 (тры) друкаваныя на машыне лекцыі, адрабляе іх і пасылае назад для праверкі і папраўкі; наступнай поштай атрымоўвуе папраўленыя лекцыі папярэднія і 3 наступныя да перапрацаваньня і г. д. Пры няўпыннай працы ўвесь курс можна гэтак прайсьці праз 20 тыдняў.

**Навучаньне на Курсе бясплатнае** і курсант плаціць толькі кошт тэхнічнага прыгатаваньня лекцыі, за што само кіраўніцтва З. К. Курсу мусіць плаціць гатоўкай (друк, фарба, папера, пошта): нават і гэта аплата зьніжана да мініма, бо выносіць у месяц толькі 4 зл. і ўпісных на цэлы курс — 1 зл.

Такім чынам за 21 злот, кожны, не патрабуючы нікуды выяжджаць, мае магчымасьць на гэтулькі пазнаць коопэрацыю, каб магчы пасьля ў ёй працаваць.

Запіс на курс ужо прымаецца. Першая рата (4+1) 5 зл. плаціцца пры запісе, а кожная наступная найпазьней — да 10-га кожнага месяца. Ад аплаты ніхто тымчасам ня можа быць звольнены. Таксама запісаным на курс можа лічыцца толькі той, хто адначасна з запісаньнем прышле вышэйазначаныя 5 залатовак. Запіс на курс магчымы і пазьней, толькі тады няма пэўнасьці ці навука будзе кончана прад летнімі вакацыямі. Незаплата ў час належнай раты аўтоматычна стрымлівае пасылку дальшых лекцыяў.

Усякія аплаты на рахунак Курсу найвыгадней, бо б я с п л а т н а, можна перасылаць з кожнай пошты праз

**чэкавае конто П. К. О. інж. Клімовіча № 180.485.**

з дапіскай на адваротнай старане сярэдняй часьці блянкету *„на З. К. Курсы, рата..."*, Блянкет конта далучаецца; можна яго таксама за 5 грашоў купіць на кожнай пошце.

Будучыня Беларусі — у коопэрацыі, а будучыня коопэрацыі — у фахова прыгатаваных коопэратыўных працаўнікох. З. К. Курс для коопэрацыі прыгатоўвуе працаўнікоў, а самым працаўнікоМ дае магчымасьць бытаваньня.

Дык запазнайцеся з коопэрацыяй і безадкладна, яшчэ **сягоньня, запішэцеся ў лік слухачоў Завочнага Коопэратыўнага Курсу:** прышлеце заяву, упісныя — 1 зл. і 4 зл. — як першую рату.

Кіраўніцтва З. К. Курсу зрабіла ўсё, што магло. Дальшы лёс Вашай вёскі, сяла, мястэчка — ў Вашых руках. Веда прыходзіць у хату сама — прыймеце-ж яе і вазьмецеся за працу!

Запісы прыймае і ўсякія выясьненьні дае

*Рэдакцыя «САМАПОМАЧЫ»*
*Вільня, Полацкая 4—10.*

ВІЛЬНЯ, лістапад 1933 г.

Redaktar-Vydaviec inž. A. KLIMOVIČ.

Bielaruskaja Drukarnia im. Fr. Skaryny, Vilnia, Zavalnaja 1—3.



## Цэны у Вільні

З збажжова - таварнай і льнярскай біржы ў Вільні з дн. 14.XI.1933 г.

*Цэны за 100 кілё сярэдняй якасьці.*

Цэны транзакцыйныя:

| | |
|---|---|
| Мука жытняя да 55 проц. . . . . | 25.00 |
| Мука жытняя да 65 проц. . . | 20.50—21.50 |
| Мука жытняя разовая . . . . | 17.50—18.00 |
| Льняное семя . . . . . . . . . | 36.18 |

Цэны арыентацыйныя:

| | |
|---|---|
| Жыта I, станд. (адборнае) . . | 15.50—16.00 |
| Жыта II, станд. . . . . . . | 14.50—15.00 |
| Пшаніца зьбіраная . . . . . | 20.50—21.00 |
| Ячмень на пансак . . . . . | 16.00—16.50 |
| Авёс стандартовы (адборны) . . . | 15.00 |
| Авёс замочаны (з пад дожджу | 12.50 - 13.00 |
| Мука пшонная, 0000 А. люкс. | 34.25—38.25 |
| Мука жытняя сітковая . . | 17.00—18.50 |
| Мука разовая шатраваная . | 18.50—19.00 |
| Семя льняное 90 проц. . . | 36.75 - 37.00 |

Цэны прадуктаў малочных 14.XI.33.

| | |
|---|---|
| Масла найлепшае за 1 кілё ў гурце. . | 3.60 |
| „ „ „ „ ў дэталю . | 4.00 |
| Масла сталовае за 1 кілё ў гурце. . | 3.40 |
| „ „ „ „ ў дэталю . | 3.80 |
| Масла соленае за 1 кілё ў гурце. . | 3.00 |
| „ „ „ „ ў дэталю . | 3.30 |
| Сыры „наваградзкія“ за 1 кілё ў гурце . | 2.10 |
| „ „ „ „ ў дэталю . | 2.40 |
| Сыры літоўскія за 1 кілё ў гурце . | 1.60 |
| „ „ „ „ ў дэталю . | 1.80 |
| Яйкі за капу ў груце . . . . . | 5.40—6.60 |
| „ „ „ за штуку . . . . . | 0.10—0.12 |

Курс грашэй: дня 14.XI.33. за даляр плацілі 5 зл. 57 гр. за рубель залаты 4 зл. 72 гр.

